

# ТАМАНГО

Капітан Леду быў добры марак. Пачаў ён простым матросам, потым зрабіўся памочнікам стырнавога. У Трафальгарскай бітве зламаная мачта раструшчыла яму левую руку, яе аднялі, а Леду быў спісаны з карабля з добрымі паперамі. Да адпачынку ён не быў ахвочы, і калі здарылася нагода зноў наняцца на карабель, ён пайшоў другім памочнікам капітана на карсар. Грошы, здабытыя ў бойках, дазволілі яму купіць кніжкі і вывучыць тэорыю мараплаўства, практыку якога ён ужо цудоўна ведаў. З часам ён зрабіўся капітанам люгера, што меў тры гарматы і шэсцьдзесят чалавек экіпажа. Маракі з Джэрсі і дагэтуль памятаюць аб ягоных подзвігах. Мір расчараваў яго: падчас вайны ён сабраў невялічкі набытак і спадзяваўся яшчэ павялічыць яго за кошт англічан. Ён мусіў прапанаваць свае паслугі мірным гандлярам, і яму лёгка даверылі карабель, бо ён быў вядомы як чалавек разважлівы і спрактыкаваны. Калі гандаль неграмі быў забаронены, і каб ім займацца спатрэбілася ўменне не толькі падмануць пільнасць французскіх мытнікаў, што было не надта цяжка, але яшчэ, і гэта было значна небяспечней, унікнуць англійскіх крэйсераў, капітан Леду зрабіўся каштоўным чалавекам для гандляроў «чорным дрэвам»[1].

У адрозненне ад большасці маракоў, што, як і ён сам, доўга хадзілі ў падначаленых, ён не меў таго глыбокага страху да новых завядзёнак і тае руціннае свядомасці, якую яны занадта часта захоўваюць і на вышэйшых пасадах. Наадварот, капітан Леду першы параіў судаўладальніку выкарыстоўваць жалезныя скрыні на захаванне вады; на яго-

[1] Так самі сябе называюць людзі, што гандлююць рабамі *(аўт.)*.

ным караблі кайданы і ланцугі, якіх на нявольніцкіх судзінах заўжды мноства, былі зроблены паводле найноўшае сістэмы і заўсёды шчодра змазаны ад ржавення. Але найбольшую славу сярод гандляроў рабамі прынесла яму пабудова карабля, якою ён кіраваў асабіста. Гэта была лёгкая судзіна пад ветразямі, вузкая і доўгая, як ваенны карабель, але здольная змясціць вялізную колькасць неграў. Ён назваў яе «Надзея». Прастору паміж палубамі, вузкую і з увагнутымі бакамі, ён загадаў зрабіць усяго на тры футы чатыры цалі вышыні, бо лічыў, што такія памеры дазволяць неграм сярэдняга росту ўтульна сядзець, а ўставаць, дык нашто ім? «Прыедуць у калоніі, там настаяцца аж занадта»,— казаў Леду. Негры сядзелі двума радамі спінаю да бартоў, між імі заставаўся пусты прамежак, па якім на іншых нявольніцкіх караблях яны маглі хадзіць. Леду прыдумаў размясціць у гэтым прамежку іншых неграў, якія ляжалі перпендыкулярна да першых. Такім чынам ягоны карабель змяшчаў на дзесятак неграў болей, чым любы іншы такога самага танажу. Пры патрэбе можна было б размясціць і болей, але трэба ж быць чалавечным і пакінуць на аднаго нявольніка, прынамсі, пяць футаў даўжыні і два шырыні, каб ён мог варушыцца падчас тых шасці ці нават болей тыдняў падарожжа. «Бо, зрэшты,— казаў Леду гаспадару судзіны, каб апраўдаць гэтую ліберальную меру,— негры, апрача ўсяго, такія самыя людзі, як і белыя».

«Надзея» выйшла з Нанта ў пятніцу, як заўважылі забабонныя людзі. Інспектары, што правяралі карабель, не знайшлі шасці вялікіх скрыняў, поўных ланцугоў і кайданоў, гэтых жалязякаў, якія невядома чаму завуцца «бярвеннямі справядлівасці». Іх не здзівіў і вялізны запас вады, хоць, згодна з дакументамі, «Надзея» ішла толькі ў Сенегал, каб закупіць там дрэва і слановую косць. Шлях, праўда, недалёкі, але, зрэшты, лішнія перасцярогі нікому не шкодзяць. А калі карабель захопіць бязветра, што рабіць без вады?

Такім чынам, «Надзея» выйшла ў пятніцу, маючы добры запас усяго неабходнага. Леду хацеў бы, каб мачты былі больш трывалыя, але пакуль ён камандаваў караблём, яму не выпадала нагоды на іх скардзіцца. «Надзея» шчасліва і хутка дасягнула ўзбярэжжа Афрыкі. Карабель стаў на якар на рацэ Жааль (калі я не блытаю) у той час, калі англійскія крэйсеры не сачылі за гэтаю часткаю ўзбярэжжа. На карабель адразу ж заявіліся пасярэднікі. Момант быў неверагодна спрыяльны: Таманго, славуты ваяўнік і гандляр людзьмі, нядаўна прыгнаў на бераг безліч рабоў і аддаваў іх

танна, упэўнены, што знойдзе сілы і сродкі зноў хутка забяспечыць гандаль, пасля таго як прадасць прыгнаных рабоў.

Капітан Леду пераправіўся на бераг ракі і наведаў Таманго. Той сядзеў у саламяным будане, спешліва для яго збудаваным, разам з дзвюма сваімі жонкамі, памочнікамі і паганятымі рабоў. Да прыезду белага капітана Таманго раскошна апрануўся. На ім быў стары сіні вайсковы фрэнч, на якім яшчэ трымаліся капральскія нашыўкі, а з кожнага плечука звісала па два залатыя эпалеты, прышпіленыя на адзін гузік, адзін спераду, другі ззаду.

Кашулі ён не меў, фрэнч быў закароткі для чалавека ягонага росту, і паміж белым краем вопраткі і порткамі з гвінейскага палатна відаць была паласа чорнае скуры, што нагадвала шырокі пояс. Доўгая кавалерыйская шабля вісела пры баку на вяроўцы, а ў руцэ ён трымаў доўгую дубальтоўку англійскага вырабу. Убраны такім чынам, афрыканскі ваяўнік лічыў сябе элегантнейшым за самага дасканалага модніка з Парыжа ці Лондана.

Капітан Леду пэўны час моўчкі пазіраў на яго, а Таманго, выпрастаўшыся, нібы грэнадзёр, які праходзіць агляд перад замежным генералам, цешыўся з уражання, што, як яму здавалася, ён зрабіў на белага. Спрактыкаваным вокам агледзеўшы яго, Леду павярнуўся да свайго намесніка і сказаў: «Калі б вось гэтага дзецюка давезці цэлага і здаровага на Марцініку, я б узяў за яго там, прынамсі, тысячу экю».

Усе селі, і адзін матрос, што трохі ведаў ялофскую мову, узяўся перакладаць. Пасля першых ветлівых прывітанняў юнга ўнёс скрыню гарэлкі. Усе выпілі, і капітан, каб залагодзіць Таманго, паднёс яму прыгожую медную парахаўніцу, аздобленую разьблёным партрэтам Напалеона. Дарунак быў прыняты з належнаю ўдзячнасцю, потым усе выйшлі з будана, селі ў цяні, прыхапіўшы пляшкі гарэлкі, і Таманго даў знак прывесці рабоў, якіх ён меўся прадаваць.

Яны з'явіліся доўгаю чарадой, сагнутыя ад стомы і страху. На шыі ў кожнага ляжала рацішча даўжынёю на шэсць футаў, зубы якога замыкаліся на патыліцы раба драўляным шворнам. Калі трэба рушыць, хтосьці з паганятых кладзе сабе на плячук чаранок рацішча першага раба, той бярэ рацішча наступнага, другі — рацішча трэцяга, і так робяць усе. Калі трэба стаць на адпачынак, першы паганяты ўтыркае ў зямлю завостраны

канец рацішча, і ўся чарада спыняецца. Лёгка пераканацца, што няма чаго й думаць унікнуць пагоні, калі нясеш на шыі тоўсты кол на шэсць футаў даўжынёю.

Аглядаючы кожнага раба, мужчыну ці жанчыну, што праходзілі перад ім, капітан паціскаў плячыма, скардзіўся, што мужчыны занадта кволыя, жанчыны занадта старыя ці маладыя, і наракаў на заняпад чорнае расы.

— Усё марнее,— казаў ён.— Даўней было зусім інакш. Жанчыны мелі пяць футаў шэсць цаляў росту, и чацвёра мужчын маглі самі павярнуць кабестан фрэгата, каб падняць галоўны якар.

Аднак, увесь час наракаючы, ён ужо выбіраў самых дужых і прыгожых неграў. За гэтых ён мог заплаціць звычайную цану, а за астатніх запатрабаваў значнае скідкі. Са свайго боку, Таманго абараняў свае інтарэсы, хваліў тавар, казаў, што людзей застаецца ўсё менш, а гандляваць імі робіцца небяспечна. Пад канец ён сказаў цану — я ўжо не ведаю якую — за тых рабоў, што белы капітан хацеў пагрузіць на карабель.

Адно перакладчык пераказаў па-французску патрабаванні Таманго, як Леду ледзьве не ўпаў ад подзіву і абурэння, пасля, прамармытаўшы некалькі страшэнных кленічаў, падняўся, нібы хочучы перапыніць гандаль з такім неразумным чалавекам. Таманго адразу затрымаў яго і прымусіў, праўда, з цяжкасцю, сесці на месца. Адкаркавалі новую бутэльку, і зноў пачаўся гандаль. Цяпер ужо негр казаў, што прапановы белага неразважныя і неразумныя. Яны крычалі, доўга спрачаліся, выпілі безліч пляшак гарэлкі, але гарэлка па-рознаму ўплывала на кожны зацікаўлены бок. Чым болей піў француз, тым меншую цану ён даваў, чым болей піў афрыканец, тым меней ён упарціўся. Такім чынам, выпіўшы апошнюю бутэльку, яны пагадзіліся. Сто шэсцьдзесят рабоў абмянялі на танную баваўняную тканіну, порах, крамяні, тры бочкі гарэлкі і пяцьдзесят ледзьве адрамантаваных стрэльбаў. Каб замацаваць пагадненне, капітан ляснуў па руцэ амаль зусім п'янага негра, і адразу ж рабоў абселі французскія матросы, якія пачалі здымаць з нявольнікаў драўляныя рацішчы і замяняць іх на жалезныя нашыйнікі і кайданы, што з'яўляюцца неаспрэчным доказам перавагі еўрапейскае цывілізацыі.

Заставалася яшчэ каля трыццаці рабоў: гэта былі старыя, дзеці і нямоглыя жанчыны. Карабель быў ужо поўны.

Таманго, не ведаючы, што рабіць з гэтаю рэштай, прапанаваў капітану купіць іх па бутэльцы гарэлкі за

галаву. Прапанова была вабная. Леду ўзгадаў, што на спектаклі «Сіцылійскае вячэры» ў Нанце ён бачыў, як ва ўжо поўны партэр уваходзіла шмат дужых і мажных людзей, і ўсе змаглі там змясціцца дзякуючы здольнасці чалавечых целаў сціскацца. Ён узяў дваццаць самых хударлявых з трыццаці рабоў.

Тады Таманго пачаў прасіць толькі чарку гарэлкі за кожнага з дзесяці пакінутых. Леду ўздумаў, што дзеці не плацяць і займаюць адно палавіну месца ў грамадскім транспарце. І ён узяў трох дзяцей, але абвясціў, што больш не хоча браць ніводнага нявольніка. Таманго, убачыўшы, што на ягоных руках застаецца яшчэ сем рабоў, схапіў стрэльбу і склаўся ў жанчыну, што стаяла першая; гэта была маці трох забраных дзяцей.

— Купляй! — закрычаў ён беламу.— Бо я заб'ю яе! Маленькая шкляначка гарэлкі, а не — я страляю.

— Якога д'ябла я буду з ёю рабіць? — адказаў Леду.

Таманго стрэліў, і рабыня ўпала нежывая.

— А цяпер другі,— закрычаў Таманго, цэлячы ў зусім нямоглага старога.— Шклянка гарэлкі альбо...

Адна ягоная жонка штурхнула яго пад руку, і куля паляцела ў паветра. Яна пазнала старога, якога яе муж меўся забіць; гэта быў гірыёт, ці то вядзьмар, які наваражыў, што яна зробіцца каралеваю.

Таманго, які з гарэлкі зрабіўся зусім шалёны, не здолеў стрымацца, убачыўшы, што нехта працівіцца ягонай волі. Ён моцна стукнуў жонку прыкладам і, павярнуўшыся да Леду, сказаў:

— Забірай гэтую жанчыну, а аддаю яе табе.

Яна была прыгожая. Леду з усмешкаю паглядзеў на яе, потым узяў за руку і сказаў:

— Ну, ёй я знайду месца.

Перакладчык быў чалавек спагадлівы. Ён даў Таманго картонную скрыначку на тытунь і папрасіў аддаць яму шасцёх апошніх рабоў. Ён зняў з неграў рацішчы і пусціў іх на волю. Яны адразу ж разбегліся, шукаючы шляхоў да сваёй радзімы, што ляжала за дзвесце лье ад узбярэжжа.

Тым часам капітан развітаўся з Таманго і заняўся пагрузкаю свайго тавару. Доўга заставацца на рацэ было небяспечна, маглі з'явіцца англійскія крэйсеры, і Леду хацеў зняцца з якара назаўтра. А Таманго ўлёгся ў цяньку на траве, каб праспацца пасля выпіўкі.

Калі ён прачнуўся, карабель ужо падняў ветразі і спус-

каўся па рацэ. Таманго, галаву якога яшчэ шаломіла ад учарашняе выпіўкі, спытаўся сваёй жонкі Айшэ. Яму адказалі, што яна мела няшчасце загневаць яго і ён падараваў яе беламу капітану, які й забраў яе на карабель. Пачуўшы гэта, Таманго роспачна ляснуў сябе па галаве, пасля схапіў стрэльбу і пабег найпрасцейшаю дарогай да невялічкае затокі за палову лье ад вусця, мінаючы безліч заваротаў, што рабіла рака на шляху да мора. Там ён спадзяваўся знайсці лодку, на якой змог бы дагнаць карабель, што мусіў ісці вельмі павольна з-за частых заваротаў ракі. Ён не памыліўся: і сапраўды, яму хапіла часу, каб скочыць у лодку і дагнаць карабель.

Леду задзівіўся, убачыўшы яго, але задзівіўся яшчэ больш, даведаўшыся, што ён прыехаў прасіць назад сваю жонку.

— Што даравана, то навек,— адказаў ён і адвярнуўся. Негр настойваў, прапаноўваў аддаць частку тавару, атрыманага за рабоў. Капітан засмяяўся, сказаў, што Айшэ вельмі добрая жонка і ён хоча пакінуць яе сабе. Тады Таманго заліўся слязьмі, пачаў крычаць жалосна і прарэзліва, бы той няшчасны, якому робяць аперацыю. Ён то качаўся па палубе, клічучы сваю дарагую Айшэ, то біўся галавою аб дошкі, нібы хацеў забіцца. Капітан абыяка паказваў на бераг і нагадваў, што яму час вяртацца, але Таманго ўпарціўся. Ён ужо аддаваў і свае залатыя эпалеты, і стрэльбу, і шаблю. Усё было дарэмна.

Падчас гэтае спрэчкі старшы памочнік сказаў капітану:

— Сёння ўночы ў нас памерла трох рабоў, то маем месца. Чаму б нам не ўзяць гэтага здаровага лайдака, ён адзін варты больш за тых памерлых?

Леду падумаў, што Таманго можна будзе спакойна прадаць за тысячу экю, што вандроўка, якая выдаецца такою выгаднаю, будзе, відаць, апошняя, бо ён ужо сабраў сабе ладны набытак; а як ён больш не будзе займацца нявольніцкім гандлем, то й няма розніцы, добрая ці благая слава застанецца па ім на ўзбярэжжы Гвінеі. Дарэчы, бераг быў пусты, і афрыканскі ваяр заставаўся цалкам на ягонай ласцы. Трэба было адно адабраць у яго стрэльбу і шаблю, бо небяспечна было б уздымаць на яго руку, пакуль зброя заставалася пры ім. Леду папрасіў у яго стрэльбу, нібы каб упэўніцца, што яна вартая прыгажуні Айшэ. Гуляючы замкамі, ён абачліва ссыпаў увесь порах. А памочнік ягоны ўжо разглядаў шаблю Таманго. Такім чынам, афрыканец застаўся бяззбройны, і два дужыя матро-

сы кінуліся на яго, звалілі на палубу і пачалі вязаць. Негр абараняўся гераічна. Апрытомнеўшы ад першага подзіву, ён доўга змагаўся з двума матросамі, нягледзячы на невыгоду свайго становішча. Дзякуючы надзвычайнай сіле ён здолеў падняцца. Адным ударам ён зваліў дзецюка, што трымаў яго за каўнер, вырваўся ад другога, пакінуўшы ў яго-ных руках кавалак вопраткі, і, нібы звар'яцелы, кінуўся да памочніка капітана, каб адабраць сваю шаблю. Той пляснуў яго шабляю па галаве і нанёс неглыбокую, але шырокую рану. Таманго зноў упаў. Адразу ж яму моцна звязалі рукі і ногі. Абараняючыся, ён шалёна крычаў, біўся, нібы дзік у цянётах, а калі ўбачыў, што абараняцца марна, заплюшчыў вочы і знерухомеў. Адно моцнае і таропкае ды-ханне выдавала, што ён яшчэ жывы.

— О д'ябал! — закрычаў капітан Леду.— Вось ужо па-смяюцца негры, якіх ён прадаў, калі ўбачаць, што і сам ён стаў нявольнікам. Будуць мець нагоду пераканацца, што ёсць у свеце лёс.

Тым часам Таманго сплываў крывёю. Спагадлівы перак-ладчык, што надоечы ўратаваў шасцёх рабоў, падышоў да яго, перавязаў рану і сказаў некалькі словаў на суця-шэнне. Але чым ён мог суцешыць? Негр ляжаў нерухомы, нібы нябожчык. Два матросы мусілі несці яго, бы які скрутак, у трум на прызначанае месца. Два дні ён не хацеў ні піць, ні есці, ледзьве расплюшчваў вочы. Сябры па палоне, нядаўнія ягоныя вязні, сустрэлі ягонае з'яўленне з тупым подзівам. Страх да яго быў яшчэ такі моцны, што ніводзін не наважыўся насміхацца з няшчасця таго, хто быў прычынаю іхняе злыбеды.

Спрыяльны вецер з сушы хутка гнаў карабель ад берагоў Афрыкі. Пазбыўшыся трывогі напаткаць англійскія крэйсеры, капітан думаў толькі пра вялізныя выгоды, што чакалі яго ў калоніях, да якіх ён накіроўваўся. Паміж «чорнага дрэва» псотаў не было. Не было й заразных хваробаў. Адно дванаццаць неграў, з найслабейшых, памерлі ад спёкі: гэта дробязі. Каб жывы груз як найменей па-кутаваў ад цяжкасцяў падарожжа, Леду абачліва загадаў штодня выводзіць яго на палубу. Разбіўшы няшчасных на тры часткі, іх па чарзе выводзілі наверх, каб яны за гадзіну надыхаліся паветра на ўвесь дзень. Узброеная да зубоў частка экіпажа няспынна пільнавала іх, баючыся бун-ту: дарэчы, з перасцярогі з іх ніколі не здымалі ўсіх жалезаў. Часам адзін матрос, які ўмеў граць на скрыпцы, забаўляў іх музыкаю. Дзіўна было бачыць, як гэтыя чорныя

твары паварочваліся да музыканта, паступова трацілі заўсёдны выраз тупое роспачы, і негры пачыналі рагатаць і пляскаць у ладкі, калі ім дазвалялі іхнія ланцугі. Фізічныя практыкаванні неабходныя для здароўя, і капітан Леду завёў ухвальны звычай часта прымушаць рабоў танцаваць, таксама, як выгульваюць коней падчас далёкага перавозу.

— Давайце, дзеткі, танчыце, забаўляйцеся,— казаў капітан грымотным голасам і ляскаў даўжэзным паштарскім бізуном. І адразу ж бедныя негры пачыналі падскокваць і танцаваць.

Нейкі час рана прымушала Таманго заставацца ўнізе. Але нарэшце ён з'явіўся на палубе. Спачатку ён з годнасцю ўзняў галаву, стоячы паміж натоўпу баязлівых рабоў, і кінуў сумны, але спакойны погляд на бязмежную вадзяную прастору, што акаляла карабель, потым апусціўся ці, хутчэй, асеў на дашчаную палубу, не стараючыся нават падабраць свае ланцугі, каб менш заміналі. Леду сядзеў на кармавым палубаку і спакойна паліў люльку. Каля яго стаяла Айшэ без жалезаў, у зграбнай сукенцы з блакітнага паркалю, у прыгожых замшавых чаравіках, яна трымала ў руках сподак з лікёрамі, гатовая ў любую хвіліну паднесці капітану выпіць. Было відаць, што яна выконвае пры капітане адказны абавязак. Адзін негр, ненавідзячы Таманго, знакам прапанаваў яму зірнуць у той бок. Таманго павярнуў галаву, заўважыў Айшэ і закрычаў; імкліва падняўшыся, ён пабег да кармавога палубака, і вартавыя матросы не паспелі перашкодзіць такому гвалтоўнаму парушэнню ўсяго карабельнага парадку.

— Айшэ! — закрычаў ён грымотна, і Айшэ ўскрыкнула з жаху.— Ты думаеш, што ў краіне белых няма Мама-Жумба?

Матросы ўжо пачалі біць яго кіямі, але Таманго скрыжаваў рукі і, нібы бясчулы, спакойна вярнуўся на сваё месца. Айшэ заходзілася слязьмі і, здавалася, здранцвела ад гэтых дзівосных словаў. Перакладчык растлумачыў, што гэта за жахлівы Мама-Жумба, адно імя якога наганяла такога жаху.

— Гэта негрыцянскае страшыдла. Калі нейкі муж баіцца, каб ягоная жонка не ўчыніла таго, што жанчыны ў Афрыцы робяць з такім самым спрытам, як і ў Францыі, ён пагражае ёй гэтым Мама-Жумба. Я зразумеў гэтыя хітрыкі, але негры.., гэта так проста, што яны й не разумеюць. Уявіце сабе: неяк увечары, калі жанчыны забаў-

ляліся танцамі — рабілі фальгар, як яны гэта называюць на сваёй гаворцы,— з ляска, вельмі густога і цёмнага, пачулася дзіўная музыка, а музыкаў ніхто не бачыў, яны былі схаваныя ў лесе. Там былі чаратовыя дудкі, драўляныя барабаны-балафосы і гітары, зробленыя з палавіны высушанага гарбуза. Музыка была, нібы на д'яблавых хаўтурах. Адно пачуўшы гэтую музыку, жанчыны задрыжалі і паспрабавалі ўцячы, бо добра ведалі, чым ім гэта абернецца, але мужы затрымалі іх. Раптам з лесу выйшла высокая белая постаць вышынёю з нашу мачту, галава ў яе была вялізная, як бочка, вочы шырокія, як клюзы, а з пашчы валіў агонь, як у д'ябла. Гэтая штука ішла павольна-павольна і не адыходзілася ад лесу больш як на сто метраў. Жанчыны крычалі: «Гэта Мама-Жумба!» Яны верашчалі, як гандляркі вустрыцамі. Тады мужчыны пачалі ім казаць: «Ну, шэльмы, прызнавайцеся, ці не нарабілі вы якіх глупстваў. Калі зманіце, Мама-Жумба зжарэ вас жыўцом». І былі такія прасцячкі, што прызналіся, вось тут мужы ім і ўвалілі.

— А што гэта была за белая постаць, гэты Мама-Жумба? — спытаўся капітан.

— Ат, нейкі жартаўнік, захутаны ў белую прасціну. Замест галавы ў яго быў пусты гарбуз на доўгай палцы, а ўсярэдзіне свечка. Невялікія хітрыкі, але каб абдурыць неграў, шмат розуму не трэба. Але Мама-Жумба — добрая прыдумка, хацеў бы я, каб і мая жонка ў яго верыла.

— А мая, калі не баіцца Мама-Жумба, дык баіцца Марціна-Дрына,— сказаў Леду.— Яна добра ведае, як я ёй увалю, калі яна надумае выкінуць са мною які фартэль. У родзе Леду ўсе мужчыны не надта цярплівыя, і хоць у мяне ўсяго адзін кулак, але ён добра ўмее махаць ліньком. А гэтаму ёлупню, што крычыць пра Мама-Жумба, скажыце, каб сціх і не палохаў маю кабетку, бо загадаю так нашмараваць яму хрыбціну, што ў яго скура з чорнае зробіцца на чырвоную, як свежая паляндвіца.

Сказаўшы так, капітан спусціўся ў каюту, паклікаў Айшэ і паспрабаваў суцешыць яе: але ні пяшчота, ані нават удары (бо кожны ж урэшце траціць цярпенне) не дапамаглі суцешыць чорную прыгажуню, слёзы так і струменіліся ў яе з вачэй. Капітан выйшаў на палубу ў дрэнным гуморы і вылаяў вахтавага начальніка за нейкую каманду, што той аддаваў матросам.

Уночы, калі ўвесь экіпаж ужо глыбока спаў, вахтавыя пачулі спачатку мерны, змрочны, урачысты спеў з трума,

а потым пранізлівы жаночы крык. Адразу ж пасля па ўсім караблі разнёсся грубы капітанаў голас, лаянка і пагрозы, а таксама ляскат ягонага страшнага бізуна. Праз хвіліну ўсё сціхла. Назаўтра Таманго з'явіўся на палубе са спаласаваным тварам, але выгляд меў такі самы ганарлівы і рашучы, як і раней.

Адно заўважыўшы яго, Айшэ саскочыла з кармавога палубака, дзе яна сядзела разам з капітанам, імкліва падбегла да Таманго, укленчыла перад ім і з глыбокаю роспаччу ў голасе сказала:

— Даруй мне, Таманго, даруй!

Хвіліну Таманго пільна глядзеў на яе, потым, заўважыўшы, што перакладчык далёка, шапнуў: «Напільнік». Пасля гэтага ўлёгся на палубе спінаю да Айшэ. Капітан вылаяў яе, нават ляснуў некалькі разоў па патыліцы і забараніў размаўляць з былым мужам; але ён і не падумаў, што ў тых кароткіх фразах, якімі яны перакінуліся, магло быць нешта падазронае, і нічога пра гэта не спытаўся.

А тым часам Таманго, замкнуты з іншымі рабамі, удзень і ўночы намаўляў іх на гераічную спробу здабыць свабоду. Ён казаў ім, што белых мала, што вартавыя робяцца ўсё больш няўважлівыя; потым цьмяна намякаў, што зможа прывесці іх на радзіму, выхваляўся сваімі ведамі ў чарадзействе, у якое так вераць негры, пагражаў помстаю д'ябла тым, хто адмовіцца дапамагаць ягонай справе. Гэтыя прамовы ён казаў на дыялекце племя пёляў, які ведала большасць рабоў, але не разумеў перакладчык. Ягоныя прамоўніцкія здольнасці, а таксама звычка рабоў баяцца і слухацца яго цудоўна паспрыялі поспеху ягонага красамоўства, і ўжо негры самі прыспешвалі прызначыць дзень вызвалення раней, чым ён сам меркаваў. Ён паважна адказваў змоўцам, што час яшчэ не надышоў і што дух, які явіўся яму ў сне, яшчэ не папярэдзіў яго, але нявольнікі павінны быць гатовыя падняцца на першы ж ягоны знак. А тым часам ён не ўпускаў ніводнае магчымасці праверыць пільнасць вартаўнікоў. Аднойчы нейкі матрос прыставіў стрэльбу да борта і заглядзеўся на чародку лятучых рыбаў, што гналіся за караблём; Таманго ўзяў стрэльбу і пачаў круціць ёю, імітуючы рухі матросаў, якія яны рабілі падчас практыкаванняў. Стрэльбу ў яго адабралі ў тую самую хвіліну, але ён пераканаўся, што можа ўзяць зброю, не выклікаючы падазрэнняў. А як надыдзе час скарыстаць яе, бедны будзе той, хто захоча вырваць гэтую зброю з ягоных рук!

2—2798

Аднойчы Айшэ кінула яму кавалак хлеба, зрабіўшы знак, зразумелы яму аднаму. У ім ляжаў маленькі напільнік: ад гэтай прылады залежала будучыня ўсяе змовы. Спачатку Таманго не паказаў напільніка сваім таварышам, а калі надышла ноч, ён пачаў мармытаць штосьці няўцямнае і рабіць нейкія дзівосныя рухі. Пастулова ён узрушваўся і нават пачаў нешта выкрыкваць. Пачуўшы зменлівыя інтанацыі ягонага голасу, можна было падумаць, што ён вядзе жвавую гаворку з некім невідочным. Усе рабы дрыжалі і ўжо не сумняваліся, што ў гэтую хвіліну д'ябал знаходзіўся сярод іх. Таманго скончыў гэтую сцэну радасным выкрыкам.

— Сябры,— сказаў ён,— дух, якога я выклікаў, нарэшце даслаў мне абяцанае, і я трымаю ў руках зброю нашага вызвалення. Зараз, каб зрабіцца вольнымі, вам трэба адно трохі адвагі.

Пасля доўгага чакання надышоў вялікі дзень помсты і вызвалення. Змоўцы, звязаныя паміж сабою ўрачыстаю клятвай, пасля доўгага абмеркавання склалі план дзеяў. Найбольш адважныя на чале з Таманго павінны былі падняцца на палубу і захапіць зброю вартаўнікоў; яшчэ некалькі чалавек абавязаныя былі пайсці ў капітанскую каюту і забраць усе стрэльбы, што там былі. Тыя, што здолелі распілаваць свае кайданы, павінны былі пачаць напад, але, нягледзячы на ўпартую працу падчас многіх начэй, большасць рабоў была яшчэ няздольная ўзяць чынны ўдзел у змове. Таму трох дужых неграў абавязалі забіць чалавека, што насіў у кішэні ключы ад кайданоў, і адразу ж вызваліць сваіх закутых таварышаў.

Таго дня капітан Леду быў у дзівосным гуморы, супраць звычаю ён не пакараў юнгу, які заслужыў бізуна. Ён пахваліў вахтавага за ўмелыя дзеянні, абвясціў экіпажу, што ён задаволены ім, і дакляраваў, што на Марцініцы, куды яны меліся неўзабаве прыйсці, кожны атрымае ўзнагароду. Усе матросы пачалі абмяркоўваць гэтыя прыемныя абяцанні і ўяўляць сабе, на што яны пусцяць гэтую ўзнагароду. Яны думалі пра гарэлку і цёмнаскурых жанчын з Марцінікі, калі на палубу выпусцілі Таманго і іншых змоўцаў.

Яны пастараліся так распілаваць свае кайданы, каб распілу не было відаць, але каб найменшым намаганнем можна было іх разарваць. Да таго ж яны так моцна бразгалі імі, што, пачуўшы, падумаў бы, што ланцугоў на іх удвая болей. Надыхаўшыся вольнага паветра, яны пабраліся за рукі і пачалі танцаваць, а Таманго завёў баявы спеў свайго

роду, які даўней ён выконваў, выпраўляючыся ў паход. Паскакаўшы пэўны час, Таманго, нібы зняможаны, распасцёрся ля ног матроса, што спакойна стаяў, абапёршыся на борт карабля. Гэтаксама зрабілі ўсе змоўцы. Такім чынам ля кожнага матроса апынулася некалькі неграў.

Раптам Таманго, які асцярожна разарваў свае ланцугі, шалёна закрычаў,— гэты крык павінны быў служыць сігналам да нападу,— рэзка рвануў за ногі матроса, што стаяў побач з ім, зваліў яго, ударыў нагою ў жывот, вырваў стрэльбу і застрэліў вахтовага. Тае самае хвіліны негры напалі на ўсіх матросаў, збяззброілі іх і адразу ж пазабівалі. Боцман, у якога былі ключы ад кайданоў, загінуў адзін з першых. І тады натоўп неграў хлынуў на палубу. Хто не змог здабыць зброю, хапаў шворан ад кабестана ці вёслы са шлюпак. З гэтае хвіліны лёс белага экіпажа быў вырашаны. Хоць на кармавым палубаку яшчэ змагаліся некалькі матросаў, але ім бракавала зброі і рашучасці. Леду быў яшчэ жывы і не страціў мужнасці. Заўважыўшы, што Таманго завадатар змовы, ён вырашыў, што, забіўшы яго, ён зможа лёгка справіцца з астатнімі. Ён кінуўся насустрач Таманго з шабляю ў руцэ, голасна выклікаючы яго. Таманго адразу скіраваўся да капітана. Ён трымаў стрэльбу за рулю і біўся ёю, бы доўбняю. Абодва кіраўнікі сышліся на адным з тых вузкіх праходаў, што злучаюць насавы і кармавы палубакі. Таманго ўдарыў першы. Спрытна крутнуўшыся, белы ўнікнуў удару. Прыклад стрэльбы моцна стукнуўся аб дошкі і раскалоўся, сіла ўдару была такая, што стрэльба вылецела з рук Таманго. Ён быў бяззбройны, і Леду з д'яблавай усмешкаю ўзняў шаблю, каб засекчы яго. Але Таманго быў такі самы спрытны, як пантэры ў яго на радзіме. Ён кінуўся на праціўніка і перахапіў руку, у якой той трымаў шаблю. Адзін намагаўся ўтрымаць зброю, другі імкнуўся вырваць яе. Падчас гэтае зацятае барацьбы яны абодва ўпалі, і афрыканец апынуўся знізу. Тады, не трацячы мужнасці, Таманго з усяе сілы сціснуў праціўніка і з такою лютасцю ўпіўся зубамі ў ягонае горла, што кроў заструменіла, нібы з-пад ільвіных іклаў. Шабля вывалілася са знямоглае капітанавае рукі. Таманго схапіў яе, узняўся, скрываўленымі вуснамі выкрыкнуў пераможны кліч і некалькімі ўдарамі дабіў ужо напалову мёртвага ворага.

Перамога была ўжо пэўная. Малая рэшта матросаў спрабавала вымаліць літасці ў паўстанцаў, але ўсе яны разам з перакладчыкам, які ніколі не чыніў неграм зла, былі бязлітасна забітыя. Памочнік капітана загінуў з гонарам. Ён

адступіў да аднае з тых маленькіх гарматаў, што круцяцца на шворне і набіваюцца картушам. Леваю рукою ён наводзіў гарматку, а ў правай трымаў шаблю і абараняўся так зацята, што сабраў цэлы натоўп неграў. Тады ён стрэліў і праклаў у гэтым цесным тлуме шырокі шлях, завалены мёртвымі і параненымі. Яшчэ праз хвіліну яго разарвалі на шматкі.

Калі труп апошняга белага, пашкуматаны і пасечаны на кавалкі, паляцеў у мора, негры, здаволіўшыся з помсты, узнялі вочы да карабельных ветразяў; а тыя, напятыя свежым ветрам, здавалася, яшчэ падпарадкоўваліся прыгнятальнікам і, нягледзячы на перамогу, імкнулі іх у краіну рабства.

— Дык, значыць, усё марна? — думалі яны ў сумоце.— Ці захоча гэтае вялізнае боства белых везці нас на радзіму, нас, што пралілі кроў ягоных уладароў?

Нехта сказаў, што Таманго здолее прымусіць ветразі падпарадкоўвацца. Адразу ж усе закрычалі, заклікаючы Таманго.

Ён не спяшаўся ісці. Яго знайшлі ў кармавой каюце, ён стаяў, абапершыся адною рукой на скрываўленую капітанаву шаблю, а другую абыякава падаўшы Айшэ, якая цалавала яе, стоячы на каленях. Радасць перамогі не магла захінуць змрочнага неспакою, якім веяла ад усяе ягонае постаці. Больш чуйны за іншых, ён лепш разумеў усю складанасць свайго становішча.

Нарэшце ён з’явіўся на палубе, удаючы ўпэўненасць, якое не адчуваў. Скрозь глухі шум сотні галасоў, што прыспешвалі яго павярнуць бег судзіны, ён ішоў да стырна павольна, нібы каб хоць трохі аддаліць момант, які яму і іншым павінны быў паказаць мяжу ягонае ўлады.

Усе негры, нават самыя безгаловыя, даўно заўважылі, што рух карабля залежыць ад нейкага кола і скрынкі, што стаяла супраць яго, але гэты механізм быў для іх найвялікшаю таямніцай. Таманго доўга разглядаў бусоль, варушыў вуснамі, нібы чытаў знакі на ёй, пасля паднёс руку да лоба і зрабіў задуменны выгляд, як чалавек, што ў думках нешта вылічвае. Усе негры абступілі яго, разявіўшы раты, шырока расплюшчыўшы вочы, з трывогаю сочачы за кожным ягоным рухам. Нарэшце са страхам і ўпэўненасцю, што надае людзям няведанне, Таманго крутануў стырно.

Як высакародны конь, што ўздымаецца на дыбы, адчуўшы астрогі неабачлівага вершніка, цудоўны брыг «Надзея» падскочыў на хвалях ад гэтага небывалага манёўру, нібы,

абураны, хацеў праваліцца ў прадонне, разам са сваім нягеглым кіроўцам. Неабходная адпаведнасць паміж накірункам ветразяў і стырном была адразу ж парушана, карабель нахіліўся так рэзка, што, здавалася, зараз абернецца. Доўгія рэі ягоныя крануліся вады. Шмат хто ўпаў, нехта зваліўся за борт. Хутка карабель зноў выпрастаўся над хвалямі, нібы збіраўся змагацца супраць згубы. Вецер задзьмуў з падвойнаю сілай, і раптам абедзве мачты абрынуліся з жахлівым шумам, зламаныя на вышыні некалькіх футаў над палубаю, акрыўшы яе драўлянымі зломкамі і цяжкім спляценнем канатаў.

З шалёнымі крыкамі напалоханыя негры кінуліся да люкаў, але як вецер больш не меў за што зачапіцца, то карабель выпрастаўся і лёгка загайдаўся на хвалях. Тады найбольш адважныя падняліся на палубу і прыбралі з яе зломкі. Таманго стаяў нерухома, абапершыся локцем на скрынку бусолі і хаваючы твар у сагнутай руцэ. Айшэ была пры ім, але не наважвалася вымавіць ні слова. Паволі падыходзілі негры, усчалося нейкае мармытанне, якое хутка перарасло ў хвалю праклёнаў і лаянкі. «Здраднік! Лгар! — крычалі негры.— Праз цябе ўсе нашы няшчасці, ты прадаў нас белым, і ты ж змусіў нас паўстаць супроць іх. Ты хваліўся сваім умельствам, ты абяцаў адвесці нас на радзіму. А мы, дурні, паверылі табе! І вось мы ўсе ледзьве не загінулі, бо ты ўгнявіў боства белых».

Таманго горда ўзняў галаву, і негры, што атачалі яго, збянтэжана адступіліся. Ён падняў дзве стрэльбы, знакам загадаў жонцы ісці за ім, прайшоў скрозь натоўп, што расступіўся перад ім, і накіраваўся на нос карабля. З пустых бочак і дошак ён склаў там нешта накшталт вала і ўсеўся ўсярэдзіне гэтага схову, адкуль пагрозліва тырчалі штыхі дзвюх стрэльбаў. Яму далі спакой. Сярод паўстанцаў адныя плакалі, іншыя ўзносілі рукі ў неба, заклікаючы свае боствы і боства белых, трэція, укленчыўшы перад бусоллю, зачаравана сачылі за няспынным рухам яе і малілі адвесці іх на радзіму, чацвёртыя ў роспачнай знямозе ляжалі на палубе. Сярод гэтых людзей, што страцілі ўсялякую надзею, уявіце сабе жанчын і дзяцей, што лямантавалі са страху, і чалавек дваццаць параненых, што благалі дапамогі, якое ніхто і не думаў ім даваць.

Раптам на палубе з'яўляецца нейкі негр, і твар ягоны ззяе. Ён паведамляе, што знайшоў месца, дзе белыя захоўваюць гарэлку; радасць і задаволенасць ягоныя даводзяць, што ён ужо паспытаў яе. Гэтая навіна прымушае лямант

вокамгненна сціхнуць. Усе бягуць на камбуз і напіваюцца дасхочу. Праз гадзіну ўсе негры пачалі рагатаць і танчыць на палубе, яны былі п'яныя як гразь, і гэта натхняла іх на самыя быдлячыя вычварэнні. Яны скакалі і спявалі пад стогны і галашэнне параненых. Так мінула рэшта дня і ўся ноч.

А на ранку, па пабудцы, зноў вярнулася роспач. За ноч памерла шмат параненых. Вакол карабля плавалі трупы. Мора было неспакойнае, неба зацягнулася хмарамі. Склікалі раду. Некалькі аматараў-новікаў у вядзьмарскім мастацтве, што не наважваліся гаварыць пра сваё ўмельства пры Таманго, прапанавалі ўсім свае паслугі. Выпрабавалі некалькі магутных заклёнаў. Пасля кожнае бескарыснае спробы паняверка ўзрастала. Нарэшце ўзгадалі пра Таманго, які не паказваўся са свайго сховішча. Усё ж такі ён быў сярод іх самы абазнаны, і адзін ён мог вывесці іх з таго жахлівага становішча, у якое завёў. Да яго пайшоў стары, пасланы весці мірныя перагаворы. Ён прасіў яго даць параду, але Таманго, безуважлівы, як Карыялан, застаўся глухі да ягоных просьбаў. Уначы падчас вэрхалу ён зрабіў запас сухароў і саланіны. Здавалася, ён вырашыў жыць адзін у сваім сховішчы.

Гарэлка яшчэ была. Яна, прынамсі, дазваляла забыцца і на мора, і на рабства, і на хуткую смерць. Спіш сабе і сніш Афрыку, каўчуковыя лясы, халупы, крытыя саломаю, баабабы, цень ад якіх хавае пад сабою ўсё селішча. Зноў, як і надоечы, усчаліся оргіі. Так мінула некалькі дзён. Крычаць, плакаць, ірваць на сабе валасы, пасля напіцца і заснуць — так праходзіла іхняе жыццё. Шмат хто з іх памёр, перапіўшыся, некаторыя выкінуліся ў мора альбо зарэзаліся.

Аднае раніцы Таманго выйшаў са сваёй крэпасці і стаў ля зломка грот-мачты.

— Рабы,— сказаў ён.— Калі я спаў, мне явіўся дух і падказаў сродак вывесці вас на радзіму. Праз сваю няўдзячнасць вы заслужылі, каб я кінуў вас тут, але мне шкада гэтых жанчын і дзяцей, што так галосяць. Я дарую вам, дык слухайце.

Усе негры з павагаю схілілі галовы і сабраліся вакол яго.

— Адно белыя,— працягваў Таманго,— ведаюць магутныя словы, што прымушаюць рухацца іхнія драўляныя дамы, але мы ўмеем кіраваць гэтымі лёгкімі лодкамі, што так падобны да чаўноў нашае бацькаўшчыны.

Ён паказаў на шлюпку і іншыя лодкі, што былі на караблі.

— Складзем у іх прыпасы, сядзем у іх і вяслуйма з ветрам. Мае і вашы багі прымусяць яго дзьмуць у бок бацькаўшчыны.

Яму паверылі, хоць ніхто яшчэ дагэтуль не складаў такіх бессэнсоўных планаў. Не ведаючы, як карыстацца бусоллю, пад незнаёмымі зоркамі можна было толькі блукаць наўздагад. Таманго думаў, што, вяслуючы ўвесь час уперад, ён знойдзе ўрэшце нейкую зямлю, заселеную неграмі: бо негры валодаюць зямлёю, а белыя жывуць на караблях. Так яму калісьці казала маці.

Хутка ўсё было гатова да адплыцця, але карыстацца можна было толькі шлюпкаю і адным чаўном. Гэта было замала, каб змясціць каля васьмідзесяці неграў, што яшчэ засталіся жывыя. Трэба было пакінуць усіх параненых і хворых. Большасць няшчасных прасіла, каб іх забілі да таго, як ад'язджаць.

Абедзве судзіны, з вялікімі цяжкасцямі спушчаныя на ваду і нагружаныя звыш усялякае меры, адышлі ад карабля ў неспакойнае мора, якое ў любую хвіліну гатова было паглынуць іх. Першы адплыў човен. Таманго і Айшэ селі ў шлюпку; цяжэйшая і больш нагружаная, яна значна адставала ад чоўна. Яшчэ чутны былі крыкі няшчасных, што засталіся на караблі, калі даволі моцная хваля збоку набегла на шлюпку і заліла яе вадою. Менш чым за хвіліну яна затанула. На чоўне заўважылі няшчасце і пачалі веславаць з падвойнаю сілай, баючыся, што трэба будзе падабраць пацярпелых. Амаль усе, хто быў у шлюпцы, утапіліся. Адно чалавек дзесяць здолелі даплысці да карабля. Сярод іх былі Таманго і Айшэ. Калі сонца зайшло, яны ўбачылі, што човен знік за небакраем; але што з ім сталася далей — невядома.

Нашто мне стамляць чытача брыдкім апісаннем галодных пакутаў? Дваццаць чалавек, што засталіся на цеснай прасторы, то гайданыя збушаваным морам, то паленыя пякельным сонцам, штодня спрачаюцца за жалю вартыя рэшткі едзіва. Кожны кавалак сухара даецца праз бойку; і слабы памірае не таму, што моцны забівае яго, але таму, што ён пакідае яго паміраць. Праз некалькі дзён на брыгу «Надзея» з жывых засталіся адно Таманго і Айшэ.

* * *

Аднае начы мора хвалявалася, рэзка дзьмуў вецер, а цемра была такая густая, што з кармы нельга было разгледзець носа карабля. Айшэ ляжала на матрацы ў капітанскай каюце, і Таманго сядзеў у яе ў нагах. Абое доўга маўчалі.

— Таманго,— нарэшце вымавіла Айшэ.— Усе твае пакуты цераз мяне...

— Я не пакутую,— хутка адказаў ён і кінуў ёй на матрац кавалак сухара, што ў яго заставаўся.

— Пакінь яго сабе,— сказала яна, асцярожна адсоўваючы сухар.— Я не галодная. Дый нашто есці? Хіба мой час не падышоў?

Таманго моўчкі ўстаў, хістаючыся, выйшаў на палубу і сеў ля зламанае мачты. Звесіўшы галаву на грудзі, ён насвістваў свой радавы спеў. Раптам праз шум ветру і хваляў данёсся крык, і паказалася нейкае святло. Зноў пачуўся крык, і нейкі вялізны чорны карабель праплыў зусім побач, так блізка, што рэі ягоныя прайшлі над галавою ў Таманго. Ён убачыў толькі дзве постаці, асветленыя ліхтаром, што вісеў на мачце. Гэтыя людзі зноў закрычалі, і тут іхні карабель, падхоплены парывам ветру, знік у цемры. Напэўна, вахтавыя заўважылі пацярпелы карабель, але шторм не дазволіў ім падысці бліжэй. Праз хвіліну Таманго ўбачыў сполах стрэлу і ўчуў гарматны выбух, пасля полымя вырвалася з другое гарматы, але стрэлу не было чуваць. Больш Таманго нічога не бачыў. Назаўтра ніводзін ветразь не паказаўся на даляглядзе. Таманго зноў лёг на свой матрац і заплюшчыў вочы. Гэтае ночы памерла яго жонка Айшэ.

* * *

Мінула невядома колькі часу, і з англійскага фрэгата «Бэлона» заўважылі нейкі карабель з паламанымі мачтамі; каманда, здавалася, пакінула яго. Падплыўшы да карабля на шлюпцы, матросы знайшлі там мёртвую негрыцянку і негра, такога схуднелага і ссохлага, што нагадваў мумію. Ён быў непрытомны, але жыццё яшчэ не адышло ад яго. Карабельны лекар заняўся ім, даглядаў яго, і, калі «Бэлона» прыйшла ў Кінгстан, Таманго быў ужо здаровы. Яго пачалі распытваць, і ён распавёў свае прыгоды. Плантатары з вострава хацелі павесіць яго як негра-бунтаўшчыка, але губернатар, чалавек гуманны, палічыў, што яго можна апраўдаць, бо, урэшце, ён толькі выкарыстаў сваё законнае

права на абарону; а апроч таго, забітыя ім былі ўсяго толькі нейкія французы. Да яго ставіліся як да негра, узятага з канфіскаванага нявольніцкага карабля. Яму далі волю, то бок яго прымусілі працаваць на ўрад, але яго кармілі і плацілі яму шэсць су на дзень. Гэта быў вельмі прыгожы дзяцюк. Камандзір 75-га палка ўбачыў яго, забраў да сябе і зрабіў літаўршчыкам у палкавым аркестры. Ён трохі навучыўся гаварыць па-англійску, але быў не надта гаваркі. Затое ён без меры піў ром і цукровую гарэлку. Памёр ён у шпіталі ад запалення лёгкіх.

## ТАМАНГО

Упершыню ў «Revue de Paris» 4 кастрычніка 1829 года. Увайшла ў зборнік «Мазаіка».

С. 24. *У Трафальгарскай бітве...*— 21 кастрычніка 1805 года англійскі адмірал Нельсан разбіў аб'яднаны франка-іспанскі флот каля мыса Трафальгар. У гэтай бітве Нельсан загінуў.

*Карсар* — ваенны карабель, выстаўлены прыватнымі асобамі з дазволу ўрада. *Люгер* — маленькі трохмачтовы карабель. *Крэйсер* — ваенны карабель, які ахоўвае марскія шляхі.

*Мір расчараваў яго...*— мір з Англіяй, заключаны ў 1814 г.

С. 26. *Ялофская мова* — мова народа, што жыве ў Сенегале.

С. 28. *«Сіцылійская вячэра»* — трагедыя Казіміра Дэлавіня (1793—1843), прэм'ера якой адбылася ў 1819 годзе.

С. 33. *Дыялект племя пеляў* — на гэтай мове гавораць у Сенегале, Буркіна Фасо і Камеруне.

С. 38. *Карыялан* — рымскі ваявода, у 493 г. да н. э., пасварыўшыся з жыхарамі свайго горада, аблажыў яго, стаўшы на чале ворагаў Рыма.